№№159–160
(3698–3699)

12 кастрычніка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Камп’ютарная непісьменнасць

## *ці дбайна прадуманая неахайнасць?*

18 сакавіка 2012 года я ехаў цягніком з Мінска ў Вільнюс. Беларускі памежнік-шараговец, які правяраў дакументы пасажыраў на станцыі Гудагай, узяў мой пашпарт, прылажыў да пераноснага сканера і... некуды з ім пабег. Праз дзве-тры хвіліны ён вярнуўся разам з маёрам памежнай службы, які заявіў, каб я пакінуў вагон, бо мне забаронены выезд з Беларусі. На маю заўвагу, што свабодны выезд за мяжу — маё канстытуцыйнае права, маёр адказаў:

— Я гэта ведаю, але ў мяне загад, а я — чалавек ваенны. Калі вас прапушчу, то страчу працу і не змагу карміць сям’ю. Да нас даведзена толькі тое, што аб падставах уключэння ў камп’ютарны спіс невыязных вы можаце даведацца ва ўпраўленні ўнутраных спраў па месцы жыхарства.

Так як справы ў Літве ў мяне былі неадкладныя, то я вырашыў не высвятляць у міліцыі “падставы абмежавання маіх правоў”, вярнуўся ў Мінск, сеў за руль свайго аўтамабіля і прыехаў у Вільнюс праз Расію. Замест 170 кіламетраў па дарозе Мінск—Вільнюс прыйшлося праехаць 750 па маршруце, які не спяшаюся абвешчваць, добра ведаючы нораў прадстаўнікоў сённяшняй беларускай улады. Зноў жа не хачу агалошваць, якімі шляхамі і якім транспартам я на працягу паўгода выязджаў на працы і па запрашэннях у Расію, Аўстрыю, Літву, Латвію, Эстонію, Польшчу, Швецыю, ЗША, Паўднёвую Карэю.

Нарэшце, роўна праз шэсць месяцаў пасля забруджання майго пашпарта ў Гудагаі штэмпелем “У ВЫЕЗДЗЕ АДМОЎЛЕНА” ў мяне знайшлося крыху вольнага часу паспрабаваць разабрацца, у чым тут справа. Я спачатку даслаў ліст, а праз тыдзень зайшоў ва ўпраўленне ўнутраных спраў Цэнтральнага раёна Мінска, дзе прыгожая жанчына — маёр міліцыі імгненна выдала мне пісьмовую даведку, згодна з якой у банк даных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права якіх на выезд з Беларусі часова абмежавана, я ўнесены ***“на падставе іску Міністэрства юстыцыі РБ, прад’яўленаму мне ў судзе 05.03.2012”.***



На маю заўвагу, што ніякага іску ні ў якім судзе мне ніхто не прад’яўляў, ветлівы маёр сказала:

— На ваша пытанне можна атрымаць адказ толькі ў Міністэрстве юстыцыі.

Еду ў Мінюст, абыходжу там мноства кабінетаў, успамінаю коласаўскае “сядзяць пісцы, як гною кучкі”, але ні адзін і ні адна з іх не маглі адказаць на пытанне, які іск прад’явіў мне суд. Нарэшце дайшоў да чалавека, як мне здалося, удумлівага і дасведчанага ў адрозненне ад мноства баўтлівых сакатушак на розных паверхах міністэства.

— Даражэнькі вы мой, ніхто вам тут не адкажа на ваша пытанне, бо ніякі суд нічога вам не прад’яўляў. Гэта адна з многіх форм антызаконнай і нават антыканстытуцыйнай хлусні, на якую накіроўвае нас наш міністр, атрымаўшы загад “абмежаваць!”. Магу вам толькі параіць звярнуцца ў Міністэрства ўнутраных спраў. Яно — гаспадар камп’ютарнай базы, у якую незаконна вас уключылі. У спісе тых, каму забаронены выезд на падставе рашэння суда, зусім іншага кшталту людзі — аліментшчыкі, махляры, асуджаныя вярнуць грошы, скрадзеныя ў дзяржавы, асобы, якіх шукае міліцыя.

Накіроўваюся ў МУС. Тут, як у Мінюсце, па кабінетах не паходзіш і пра “гною кучкі” не ўспомніш. Усё за шчыльнай аховай. Тым не менш пасля наведвання некалькіх пад’ездаў і некалькіх званкоў па ўнутраных тэлефонах бойкі жаночы голас абнадзейвае:

— Пачакайце некалькі хвілін, да вас прыйдзе кіраўнік дэпартамента.

Так і сталася. Ветлівы стройны чалавек у цывільным на чыстай беларускай мове запрашае мяне ў пакой для перамоў, кажа, што добра разумее сутнасць маёго пытання, дае мне ліст паперы і просіць напісаць заяву.

— Наш абавязак — адказаць вам на працягу дзесяці дзён. Смею вас запэўніць, што праз дзён пяць вы атрымаеце наш пісьмовы адказ.

Адказ сапраўды прыйшоў. А ў ім: *“...праведзенай праверкай пацвярджаецца факт тэхнічных збояў у перадачы інфармацыі ў банк дадзеных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права на выезд якіх з Рэспублікі Беларусь часова абмежавана, у перыяд часу з 24.02.2012 па 10.03.2012, вынікам якіх з’явілася ўнясенне ў яго памылковых звестак аб Вас”.* І далей у такім самым стылі: *“завяршаецца праверка... прымаюцца адпаведныя меры па недапушчэнні... 27.09.2012 прыняты меры па выключэнні з банка дадзеных... звестак, памылкова ўнесеных у дачыненні да Вас”.*

***Ці не ганьба, спадары міністры, кіраўнікі і супрацоўнікі МУС і Мінюста, выдаваць за тэхнічныя збоі камп’ютарнай сістэмы вашы несумяшчальныя з чалавечай, тым больш з прафесійнай годнасцю ўчынкі? Замест таго, каб бараніць грамадзян ад тых, хто парушае Канстытуцыю і законы, вы трусліва дагаджаеце тым, хто загадвае вам рабіць паклёпы, даносы, абмяжоўваць у правах, фальсіфікаваць, адпраўляць невінаватых у зняволенне. Вы, добра ўсё ўсведамляючы, дапамагаеце тым, хто не здольны законна кіраваць, але хоча антызаконна панаваць і захоўвае ўладу, дзякуючы татальнай фальсіфікацыі выбараў.***

***Ці не пара вам перастаць быць дробнымі прыладамі ў руках пануючых злачыннымі метадамі, пакаяцца ў садзеянні ім, і паступаць так, каб мець права людзьмі звацца, а не сесці ў рэшце рэшт разам з прымушальнікамі на лаву падсудных сапраўднага (не сённяшняга!) суда?***

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

ВІЗІТ



## *У Мінск едзе патрыярх Кірыл*

*Кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы прыедзе з аднадзённым афіцыйным візітам 14 кастрычніка.*

Вядома, што патрыярх Кірыл адслужыць набажэнства ў мінскай Свята-Пакроўскай царкве. Запланавана яго сустрэча з А.Лукашэнкам. А ўжо ўвечары ў нядзелю патрыярх адлятае ў Маскву.

Палітолаг, рэдактар інтэрнэт-партала “Царква” **Наталля Васілевіч** мяркуе, што візіт можа быць звязаны з вырашэннем і палітычных, і ўнутраных кадравых пытанняў, з будучыняй Беларускай праваслаўнай царквы. *“На парадку дня стаіць вызначэнне будучыні беларускага экзарха — хто прыйдзе на змену мітрапаліту Філарэту”,* — сказала Васілевіч у каментары Радыё Свабода.

ПАД ГРАДУСАМ

## *Каротка-часовыя дажджы*

***13 кастрычніка*** ноччу пераважна без ападкаў, днём месцамі па паўднёва-заходняй палове кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Вецер ноччу слабы, днём паўднёва-ўсходні 4—9 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу плюс 1—6°С, месцамі замаразкі да 0 — мінус 3°С, на глебе і месцамі ў паветры замаразкі да 0 — мінус 4°С; максімальная тэмпература днём плюс 5—12°С.

***14 кастрычніка*** месцамі кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Вецер пераменных напрамкаў 4—9 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу плюс 2—8°С, максімальная днём плюс 6—13°С.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# В положении лежа

Недавно в Беларуси был установлен рекорд. Он даже в Книгу рекордов Гиннесса может попасть — как самая короткая санкционированная властями акция протеста.

Пять минут! Разрешенная акция свернулась за пять минут!

Под лозунги с требованием дать людям достойную зарплату и отменить контракты собралось всего около 30 профсоюзных активистов, но милиция поспешила даже этих одиночек загнать вглубь парка Бангалор, подальше от людей, тогда они обиделись и вообще ушли.

С одной стороны, я профсоюзных активистов понимаю — ну что им друг другу про эти контракты и зарплату доказывать, на осеннем холоде мерзнуть. А народ поддержать столь важные требования не пришел. Значит, людям с тракторного, МАЗа, “Интеграла” это не надо. В целом довольны, притерпелись, пристроились.

Но с другой стороны, знали ли об этой акции заводы? Разрешили пикет — подумайте, организаторы, как на него откликнутся люди. Не согласны были с местом пикета, которое в народе называют “собачьей площадкой”? Тогда зачем шли? Да и вообще, знают ли профсоюзные активисты, что старые плакаты давно пора переписывать? Ведь пока одни на диванах лежат, а вторые видимость деятельности изображают (как произошло в случае с данным пикетом), власть наштамповала новых документов, которые вот-вот накроют нас новым цунами заботы о простом человеке.

Не могу назвать точную цифру, сколько людей в том же Минске живет в общежитиях, но, полагаю, немало. Веселенькие занавесочки на окна покупают, борщи варят, бока отлеживают, о соседях и начальстве сплетничают, водку пьют... На пикет эти граждане не пришли.

Но знают ли они, что завтра их всех на абсолютно законных основаниях могут выбросить на улицу? Вместе с занавесочками!

И тогда даже невысокая зарплата и трудовой контракт, который начальство в любой момент может расторгнуть, покажется мелкими неприятностями. Потому что сегодня если с человеком не продлевают контракт и даже если он увольняется по собственному желанию — из общежития его выселить не могут. Сегодня, чтобы выселить человека, предприятие в суде должно доказывать, что не было у него объективных причин писать заявление об уходе. Что и зарплату ему платили вовремя, и не холодно ему было в цеху зимой, и не жарко летом, и в принудительные отпуска не отправляли, и к сельхозработам не принуждали... В общем, все условия создали, зарплату, среднюю по стране, платили, а он хвостом крутанул.

Ну, а если говорить о пенсионерах, матерях-одиночках, инвалидах, людях, которые проработали в организации более 10 лет, то завод, или там трест, или фабрика просто не могут выселить таких из общежития, не предоставив другого жилого помещения.

Но эти нормы закона действуют последние месяцы. В феврале следующего года вступает в силу новый Жилищный кодекс — и многие вспомнят добрым словом нынешние времена. Часть 1 статьи 93 этого документа гласит: *“Работники, прекратившие трудовые (служебные) отношения с организацией, предоставившей жилое помещение государственного жилищного фонда в общежитии, в случае отказа освободить жилое помещение в общежитии подлежат выселению из него со всеми гражданами, проживающими совместно с ними, в судебном порядке без предоставления другого жилого помещения”.*

Ау, общежития! Вы вообще поняли, о чем этим кондовым юридическим языком написано?

С одной стороны, с вами в любой момент могут расторгнуть контракт, если станете шибко права качать. А с другой — вашему работодателю уже будет плевать и на уровень вашей зарплаты, и на ваше недовольство. Потому что пока не построите квартиру (а с учетом нынешних зарплат и ставок по кредитам на жилье ее уже ой как непросто построить), вы никуда с этой “подводной лодки” не денетесь. И будете работать за любые копейки, потому что окажетесь прикованы к своей комнате в общаге прочными юридическими кандалами.

В противном случае — на улицу! Вместе с женой, детками и чудными — на зависть соседям — занавесочками!

Ну что, борщом не поперхнулись?

Впрочем, тем, кто свои квартиры не приватизировал, тоже с борщом лучше осторожнее. Потому что по новой редакции Жилищного кодекса они тоже оказались должны этой стране. Правда, пока непонятно сколько. Сумму, ставку, тариф еще не обнародовали, определяют. Но законом уже определено, что эти граждане (помимо платы за газ, свет, воду, жилищно-коммунальные услуги, техническое обслуживание, отчисления на капитальный ремонт и т.д., и т.п.) будут обязаны платить государству за пользование квартирой, в которой прожили всю жизнь и которую считали своей.

Для сведения: каждая пятая квартира у нас не приватизирована (по статистике, что-то около 80% жилого фонда в частной собственности). Понятно, что пятая часть страны не может быть тунеядцами и алкоголиками. Большая часть — это люди с низким достатком. Которые считали каждую копейку даже тогда, когда была льготная приватизация, а сейчас они и подавно не могут найти даже пару тысяч долларов на оформление права собственности на занимаемое жилье.

Вот теперь им от власти и привет, и забота... Их заставят платить за квартиру больше, чем кто. Да к тому же и унизят. Дело в том, что поскольку квартира государственная, то закон обязал жильцов обеспечивать доступ внутрь работникам ЖЭСов. Чтобы они могли проверить, в каком состоянии там все находится. Осталось только обязать при выходе из дома сдавать ключи от квартир какому-нибудь гэбисту-отставнику — и можно рапортовать, что наше государство заботится о людях, как никакое другое.

И это я только два момента из нового Жилищного кодекса описала, а там таких — писать не переписать. Конечно, можно упрекать юристов, правозащитников, профсоюзы, политические партии, которые обсуждают самые разные проблемы, но только не закон, который коснется каждого. Ясно, что многие акции проводятся для галочки, когда о них никто не знает и не слышал.

Но что себе думают люди, которые лежат на диване, ждут лучшего завтра, не протестуют, не возмущаются?

Чего ждать? Как любят говорить чиновники, в основе политики нашего государства лежит человек. Только, сказав “а”, они умалчивают часть “б”. В основе политики нашего государства действительно лежит человек, и белорусская власть сделает все, чтобы он никогда не поднялся.

Но у профсоюзов, тем более независимых, другая роль — помочь людям **стать Народом**, подняться на защиту своих прав. И тут имитацией работы профактивисты ничего не добьются. Пикеты ради галочки никому не нужны.

## ...І ў 2013-м з «Народнай Воляй»!

***Чулі? Ідзе падпіска на газеты і часопісы на першую палову 2013 года. Спадзяёмся, што наша сяброўства працягнецца.***

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

***Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях, а для мінчан у бліжэйшыя дні будзе арганізавана падпіска яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.***

ЧУЛІ?

## *Ацяпленне ў кватэрах Мінска пачнуць уключаць заўтра*

*Такое рашэнне прынята ў Мінгарвыканкаме.*

***А з 18 кастрычніка*** дазволена ўключаць ацяпленне ў грамадскіх і адміністрацыйных будынках, будынках устаноў культуры і спорту, ***з 19 кастрычніка*** — у будынках і збудаваннях для ўсіх катэгорый спажыўцоў цеплавой энергіі па ўзгадненні з арганізацыямі цеплазабеспячэння пры наяўнасці пашпартоў гатоўнасці.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Опасный сезон

*На улице осень. Время, когда мы простужаемся, заболеваем ОРВИ и с ужасом думаем о том, что надо идти в поликлинику, где вечные очереди и недовольные пациенты.*

*— Как избежать сезонных синуситов?*

*— Правда ли, что осень — лучшее время для удаления аденоидов?*

*— Почему не прекращается насморк?*

*— Чем опасен храп?*

*На эти и другие вопросы ответит врач-оториноларинголог высшей категории, заведующая Центром семейной медицины ООО “ЛОДЭ”* ***Елена Николаевна ЗАВАДА.***



*Звоните* ***19 октября в пятницу с 16.00 до 17.30*** *по телефону* ***328-68-41.***
*Присылайте вопросы на электронную почту* ***nv@promedia.by.***

ДОСЛОВНО



# «Нам не нужен всеобщий «одобрямс»

*Вчера А.Лукашенко выступил на заключительном заседании обеих палат парламента 4-го созыва. Вот некоторые цитаты из его речи.*

## О депутатах

— Никак нельзя согласиться с тем, что наш парламент молчалив и депутаты безгласны. Вы, будучи людьми корректными, далеко не всегда выносите дискуссию на общественное обозрение, у вас нет фанфаронства, нет желания сыграть на дешевом популизме. (...) И многие страны могли бы позавидовать парламенту, в котором дешевый популизм практически сведен к нулю.

...Возможно, в будущем новому составу парламента стоило бы быть более открытым для общества. Те дискуссии, которые проходят и, думаю, будут проходить у вас, надо выносить на суд граждан. (...) Уверен, журналисты будут только рады, если вы чаще и больше будете показывать свою работу.

(...) Нам не нужно бездумного, автоматического голосования, нам не нужен всеобщий “одобрямс”. Это вредит стране, народу и мне как президенту...

## О парламентской республике

— Объем полномочий парламента определен Конституцией нашей страны, принятой на всенародном референдуме. Белорусский народ сделал принципиальный выбор в пользу сильной власти, сильной президентской республики.

...Эта идея вызрела не в народе, не в уме отдельных политиков или в голове Лукашенко. Сам парламент отказался от этого, приняв поправки в Конституцию.

...Да, сессии Верховного Совета проходили буйно и весело. Но было ли весело от этой бесконечной болтовни нашим людям, которые месяцами не получали зарплат и пенсий, замерзали в своих домах и не знали, что будет завтра.

...Власть не должна веселить людей. На первом месте у власти должно стоять не слово, а дело. Она должна защитить людей и дать возможность заработать себе на достойную жизнь.

## Об оппозиции

— Кампания по так называемому бойкоту выборов позорно провалилась, показав слабость и трусость так называемой радикальной оппозиции, пятой колонны, не желающей даже имитировать борьбу за власть. Большинство населения поддержало тех кандидатов, которые выступали за мир и покой в стране, за продолжение социально-экономического курса, основанного на независимости и защите интересов простого человека.

...Повода для злорадства здесь нет. Искренне вам скажу: мне жаль, что у нас так пока и не появилось нормальная, честная, ответственная оппозиция, болеющая за страну, а не за распил зарубежного подаяния.

## О партиях

— Говорят, “Белая Русь” готова стать партией. Готова — пусть становится партией, я не против. Наоборот, я буду поддерживать, потому что там собрались патриоты.

В перспективе они могут действительно стать центристской силой. Например, по типу социалистической партии во Франции, которой не чужда будет частная собственность, но которая не приемлет появления частной собственности в результате дикой приватизации.

***

*Цитируется по сайту interfax.by. Комментарии в следующих номерах “Народной Воли” — за всеми, кто согласен или не согласен со словами Александра Лукашенко.*

РЭЗАНАНС

# «Дзед сказаў: «Перад смерцю хоць нармальнай вады пап’ю...»

*Некаторы час таму наша газета пісала пра сітуацыю, што склалася ў вёсцы Мокрадзь. Гэта ля Хатыні ў Лагойскім раёне. Жыхары вёскі, якія прайшлі вайну, вымушаны былі ваяваць і ў мірны час. За ваду... Пасля публікацыі ў “Народнай Волі” справа зрушылася з мёртвай кропкі.*

Жыхар Мокрадзі **Юрый Емяльянаў** распавядаў пра праблему так:

— Я пісаў у свой час і ў Адміністрацыю кіраўніка краіны, і ў аблвыканкам, што ў вёсцы праблема з пітной вадой. У нас жа ў калодзежы наогул тры гады не было вады. Пасля з’явілася брудная, чорная... Летам я бочку з Лагойска прывозіў, і ўся вёска карысталася, але ж зімой замярзала. У санстанцыі пацвердзілі, што ў вадзе з калодзежа ў разы перавышана норма нітратаў, мутнасці, паху.

Па словах суразмоўцы, райвыканкам дазволіў правесці водаправод ад комплексу “Хатынь”, было адпаведнае рашэнне.

— Мы яго і правялі, я ж спецыяліст у гэтым плане, бо 17 гадоў адпрацаваў на водаканале, — дадае Юрый. — Самі скідваліся на работы. Думаю: хто яшчэ дапаможа старым, якія жывуць у вёсцы? Там жа ўсяго некалькі чалавек засталося. Мая маці і дзед Антон, які канцлагер прайшоў, яго бацькоў фашысты спалілі. Няўжо, думаю, гэтыя людзі не заслужылі таго, каб папіць нармальнай вады?.. Яны ж зімой у шуфлік снег зграбалі, каб растапіць. Альбо трэба было бідоны з комплексу на санках цягнуць — каля паўтара кіламетра. Але пасля таго, як водаправод праклалі, дырэкцыя “Хатыні” заявіла, што ўсё зроблена супрацьзаконна. Маўляў, самім вады не хапае. І трубы проста вырвалі з коранем.



Дырэктар комплексу “Хатынь” тады патлумачыў сітуацыю са сваёй “званіцы”: *“Вы ведаеце, які ў нас помнік? Дзяржаўны мемарыяльны комплекс! У мяне ёсць ахоўныя абавязкі, я перад міністрам адказваю за ахову гэтага аб’екта. Гэта, так бы мовіць, гістарычная спадчына Беларусі. Але Лагойскі райвыканкам у асобе мясцовай ЖКГ ні з кім нічога не ўзгаднілі і праклалі водаправод... Райвыканкам не меў права прымаць такія рашэнні. Калі ў вёсцы не хапае вады, то гэта ўжо пытанні да райвыканкама і мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркі”.*

— Пасля публікацыі ў вашай газеце чыноўнікі заварушыліся, — распавядае сёння Юрый Емяльянаў. — Прыехалі рабочыя, прабурылі свідравіну, паставілі калонкі. Зрабілі ўсё літаральна за пяць дзён. Вёска з вадой! Дарэчы, дырэктара комплексу “Хатынь” знялі з пасады, а мне хацелі даць штраф у памеры тысячы базавых велічынь. Але потым пакаранне знялі. Дзед Антон плакаў, калі свідравіну бурылі. Казаў: “Хоць перад смерцю нармальнай вады пап’ю”. І ў хуткім часе памёр... Сёння ўсе ў нашай вёсцы кажуць: “Дзякуй “Народнай Волі”! Каб не вы, да гэтага часу адпіскі б атрымлівалі...”

**Алесь СІВЫ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Спыніцеся!

*Еўрасаюз і Савет Еўропы заклікалі Беларусь абвясціць мараторый на смяротную кару*

“Смяротная кара бесчалавечная, і ў ёй няма неабходнасці. Вопыт таксама паказаў, што яна не стрымлівае злачыннасць, — *гаворыцца ў сумеснай заяве генеральнага сакратара Савета Еўропы* ***Турб’ёрна Ягланда*** *і Вярхоўнага прадстаўніка ЕС па пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі* ***Кэтрын Эштан****. — Няма бездакорных сістэм правасуддзя, любая судовая памылка можа прывесці да трагічнай гібелі бязвінных людзей”.*

Ягланд і Эштан падкрэсліваюць: адмена смяротнай кары ў еўрапейскім рэгіёне з’яўляецца агульнай задачай для ўсіх краін — удзельніц Еўрасаюза і Савет Еўропы. *“У нашых дзяржавах-членах за апошнія 15 гадоў не было ніводнага пакарання смерцю”,* — прыводзіць БелаПАН вытрымкі з тэксту заявы.

Ягланд і Эштан нагадваюць, што цяпер Беларусь застаецца адзінай еўрапейскай краінай, дзе смяротныя прысуды ўсё яшчэ прыводзяцца ў выкананне.

Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, якая не ўваходзіць у Савет Еўропы. Асноўнай перашкодай для ўваходжання з’яўляецца наяўнасць у краіне смяротнай кары.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Эстетическая эмиграция

“Ну как Прага?” — спрашивали меня все близкие после моей поездки в Чехию. Я понимала, что чаще всего это лишь вежливый вопрос, но город был так гостеприимен ко мне, так приветлив, что я просто не могла отделаться шаблонным ответом. Мне, белоруске, Прага показалась вторым домом... Я будто очутилась в нашем Несвижском замке, только громадных размеров. Может быть, один стиль — барокко? Купола, башенки, мансарды, фронтоны... А может быть, грела память о Скорине... Только дышалось мне вольно. Это, конечно, крайне ненаучное ощущение, послевкусие, как угодно, оно очень личное и анализу не подлежит. Но связь нашу с европейской культурой в Праге чувствуешь остро.

Любовь начинается с метафоры, писал знаменитый чех Милан Кундера. Например, с чашки горячего кофе. Я даже не поняла, как, двигаясь по улице, вдруг очутилась в кафе. Вроде ни ступенек, ни дверей, лишь стертые неровные камни под ногами. Но меня просто захватил, заполонил запах молотых зерен — и вот я за столиком старинного пражского заведения “od roku 1889”. Горячий черный напиток, которому современная цивилизация служит как святыни, быстро сделал свое дело, восстановил меня после дороги и отправил за впечатлениями в люди.

Вацлавка — одна из главных площадей Праги — закрутила фэстом, карнавалом. Было воскресенье. Говорят, это единственное место, где пражане по выходным добровольно встречаются с туристами: выпить пива и разойтись — каждый в свою сторону. Избежать водоворота здесь можно лишь по воздуху, но для этого надо иметь хотя бы метлу. Поэтому я отдалась этому бойкому юру без всякого сопротивления. Вокруг постоянно звонили мобильники — естественно, теми же мелодиями, что и в Беларуси! У чехов, немцев, испанцев — у всех вокруг были такие же позывные, как и в наших с вами телефонах. И — чудное дело — звуки будто создавали какую-то подушку безопасности: в чужом городе, но не чужак... Общая потребительская корзина словно роднила всех друг с другом.

Из трех прохожих, которых я останавливала с извинениями, чтобы спросить маршрут, двое мне ответили по-русски. Опять-таки на русский сразу же перешла продавец газетно-табачного киоска, чтобы объяснить, какие билеты купить на общественный транспорт Праги. Минску это нововведение — единый электронный билет — еще предстоит освоить, а в Праге он давно. Выглядит это так. Я купила один талон на четыре дня на все виды транспорта (стоил он довольно дорого, примерно 17 евро) и закомпостировала его только один раз, при первом входе на перрон метро (но мог быть трамвай или автобус, естественно). Этого было достаточно, чтобы пользоваться четыре дня всеми видами общественного транспорта на полных правах пассажира. Что удивило: никто рядом не стоит и не проверяет, заходишь ты в подземку с оплаченным билетом или нет. Спускается под землю, как и у нас, толпа. Турникетов нет! Кто-то останавливается у компостера, а кому-то нет необходимости — у него пробито-оплачено ранее. Все на доверии. Удивилась. У нас такое может быть? Однозначно нет. Общественный транспорт бы разорился от нашей “честности”. Перебранки с контролерами за неоплаченный билет в Минске я наблюдаю точно пару раз в месяц. Причем, как правило, симпатии пассажиров при этом у нас на стороне “зайца”. Ума не хватает понять, что безбилетники к каждому из нас залезают в карман, а не к мифическим “начальникам”?

В праздных шатаниях по незнакомому городу есть у приезжего человека некоторые привилегии. Беспричинно улыбаться, глазеть на прохожих и задавать вопросы, вроде “как пройти в библиотеку?”. Так вот, те, кто ответил мне в Праге по-русски, на самом деле были не россиянами. Они были казахами. Это довольно неожиданная краска в моем путешествии. С солидной семейной парой из Алма-Ата мы даже разговорились. Они приехали навестить свою дочку-студентку, которая учится в университете на журналиста. “Но вы же мусульманская страна!” — вырвалось у меня невольно и неполиткорректно. Они удивились моему удивлению: при чем тут вероисповедание? “Мы послали дочь в Европу за хорошим образованием. Оно у нас ценится”, — сказала мне Мира со значением. Родители уверены, что девушка вернется жить и работать обратно домой. А также в том, что золотой запас европейских знаний, привычек, впечатлений, полученных в Праге, будет питать ее всю жизнь, станет основой для карьеры в родном Казахстане. “На молодежь нам сейчас жаловаться нечего. Большинство учатся, стремятся”, — заключила женщина свою мысль.

Видимо, по закону парного случая следующей моей собеседницей стала Евгения Энгель. Тоже из Казахстана, из Караганды. Опять-таки — студентка. Очень уверенная, рассудительная особа. И к тому же, не могу не отметить, красивая. Учится в университете. Подрабатывает в белорусской (!) турфирме, которая обслуживает русскоговорящих туристов. Она выдала мне такую тираду: “Я приехала сюда не за лучшей жизнью в смысле питания. Я приехала в Прагу по эстетическим причинам. Мне нравится город, мне нравится Европа. У меня нет сумасшедшей цели остаться за границей любой ценой. Я здесь, пока я хочу. Вот получаю второе образование. Первое было банковское дело, и мой диплом из Карагандинского университета, кстати, подтвержден. Но я решила добиться кое-чего еще. Снова учусь, на жизнь сама зарабатываю (найти работу можно везде и всегда), у родителей я не беру ни копейки. В Караганде у меня было все: нормальная работа, квартира, машина. Но я приехала в Европу за Европой. Не от безысходности, а, повторю, по эстетическим причинам. Нравится, что передо мной открыт, по сути, мир. В Праге огромное количество разных международных фондов. Все — для человека. И, скажу вам, здесь этот лозунг работает более честно”.

Девушка чуть вскинула подбородок, собираясь, видимо, отстаивать свою точку зрения. А я и не собиралась, конечно, спорить. Я думала о нашем Франциске — в конце концов, в этом притягательном духе свободного града Праги, которым так наслаждается, который так ценит Евгения из Казахстана, есть и частица его великих просветительских усилий...

РЕЙТИНГ

## Не просыхаем!

*Согласно докладу Всемирной организации здоровья, Беларусь входит в десятку самых пьющих стран мира (сравнивались данные 192 стран). “Непросыхающая” десятка выглядит так:*

1) Молдова с потреблением 18,22 литра в год на человека,
2) Чехия — 16,45,
3) Венгрия — 16,27,
4) Россия — 15,76,
5) Украина — 15,6,
6) Эстония — 15,57,
7) Андорра — 15,48,
8) Румыния — 15,3,
9) Словения — 15,19,
10) **Беларусь** — 15,13 литра.

11-е место за Хорватией (15,11 л), а на 12-м месте — Литва (15,03 л).

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Ці паўторыць зборная Беларусі подзвіг БАТЭ?

*Сёння зборная Беларусі па футболе на мінскім стадыёне “Дынама” згуляе адборачны матч да чэмпіянату свету са славутымі іспанцамі (пачатак — 21.00).*

Барысаўскі БАТЭ трохі разбэсціў беларускіх аматараў футбола. Перамог у гасцях чэмпіёна Францыі “Ліль”, разбамбіў на сваім полі не менш вядомую нямецкую “Баварыю”... Натуральна, балельшчыкі, якія ўжо прызвычаіліся да перамог над грандамі, таго ж чакаюць і ад нацыянальнай каманды. Сустрэча з чэмпіёнамі свету і Еўропы — вельмі добры шанц паказаць зубы. Парадаваць калі не вынікам, то проста характарам, духам барацьбы.

Што датычыцца іспанцаў, то аматары футбола ўбачаць у Мінску цэлы зорны россып: **Хабі Алонса, Давіда Вілья, Андрэаса Ін’еста, Ікера Касільяса, Сеска Фабрэгаса, Фернанда Торэса**...

Зрэшты, “зоркі”, калі засяляліся ў атэль Crowne Plaza, нават не пакінулі балельшчыкам аўтографы.

— *Адна з асаблівасцяў іспанцаў — клопат аб павышанай бяспецы*, — распавёў goals.by прадстаўнік беларускай турфірмы, якая прымае гасцей. — *Ахова будзе дзяжурыць заўсёды і ўсюды. Ледзь не ля кожнага нумара футбалістаў. Самі разумееце, чэмпіёны свету... Хоць нельга сказаць, што яны нам прад’явілі нейкія асаблівыя патрабаванні.*

Ці можна славутых іспанцаў перамагчы ці хаця б згуляць з імі ўнічыю?

— А чаму б і не? — кажа вядомы футбаліст **Юрый ПУДЫШАЎ,** чэмпіён СССР у складзе мінскага “Дынама”. — Перамога БАТЭ над “Баварыяй” — яскравы таму доказ. У футболе няма нічога немагчымага.

**— Што патрэбна для перамогі?**

— Каб футбалісты раней часу ў штаны не наклалі ад страху. Наперад — і літасці нікому.

**— Ваш прагноз на гульню?**

— Думаю, альбо будзе нічыя, альбо нашы перамогуць — 2:1.

**Алесь СІВЫ.**

ТЭМА ДНЯ

# Канфіскоўваць ці не?

*Перад генеральным пракурорам краіны Аляксандрам Канюком рубам пастаўлена пытанне аб узмацненні адказнасці за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане. Адна з мер, якая прапаноўваецца, — канфіскацыя транспартных сродкаў.*

*Грамадскасць пакуль да абмеркавання гэтай важнай тэмы не прыцягваюць, тым не менш мы вырашылі пацікавіцца ў беларусаў, як яны ставяцца да такой прапановы і якія метады барацьбы з п’янымі кіроўцамі лічаць эфектыўнымі.*

**Дзмітрый САЙКОЎ, псіхатэрапеўт, кандыдат медыцынскіх навук:**

— Я згодны з прапановай канфіскоўваць аўтамабілі ў тых, хто сеў за руль п’яным. Гэтую ініцыятыву дзяржавы можна толькі вітаць, гэта, па сутнасці, клопат пра кожнага з нас. Таму што па крайняй меры будзе канфіскаваны сродак павышанай небяспекі ў руках тых, хто сваёй безадказнасцю ўяўляе рэальную пагрозу іншым людзям. П’яны кіроўца — гэта патэнцыйны забойца.

Нашага чалавека паўмерамі не выхаваеш, якія б штрафы ні прапаноўвалі, іх гэта не спыніць. А вось калі будзе пагроза, што машыну забяруць, тады, магчыма, хтосьці і задумаецца. Але, вядома, кожны выпадак трэба разглядаць асобна. Можна ўводзіць і іншыя меры — не на год ці два пазбаўляць правоў за паўторнае кіраванне ў стане ап’янення, а нават пазбаўляць волі.

Я паляўнічы і памятаю, колькі было спрэчак, калі рабілі больш жорсткімі меры па барацьбе з браканьерствам, уводзілі новыя правілы палявання. Хтосьці абураўся, што, маўляў, за нязначную правіннасць могуць уляпіць велізарны штраф. Хтосьці казаў, што гэта не дапаможа. Сёння ў браканьера могуць канфіскаваць і зброю, і транспартны сродак, на якім ён перавозіў тушу, і ўпаяць велізарны штаф. І разуменне таго, што гэта можа адбіцца з табою, дысцыплінавала паляўнічых. Вынік дасягнуты: у дзясяткі разоў паменшылася колькасць правапарушэнняў на паляванні.

Так, думаю, будзе і з п’янымі за рулём. Выкараніць гэтую небяспечную з’яву можна толькі ўзмацненнем жорсткасці пакарання.



СТАТЫСТЫКА

### Кожны дзясяты зноў садзіцца за руль п’яным

У Беларусі 13 працэнтаў ДТЗ здзяйсняюць кіроўцы, якія селі за руль п’яныя. З пачатку года былі затрыманы больш за 35 тысяч нецвярозых кіроўцаў. А колькі яшчэ аматараў выпіць не трапіліся на вочы ДАІ?

На нашых дарогах не было такіх страшных аварый, як на расійскіх, калі п’яны за рулём мог адразу забіць чацвярых і нават пяцярых чалавек. Але і ў нашай краіне такіх гісторый, на жаль, няма-ла. Вось толькі некалькі паведамленняў за апошнія месяцы. У Слуцкім раёне п’яны міліцыянт не справіўся з кіраваннем, загінула 16-гадовая дзяўчына. На вільнюскай трасе ноччу аўтамабіль “Вольва” выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з “Мерседэс С”. 32-гадовая жанчына, якая кіравала гэтай машынай, памерла на месцы здарэння, а п’яны кіроўца “Вольва” пасля аварыі зачыніўся ў машыне, уключыў магнітолу і весяліўся. У Мінску п’яная жанчына-кіроўца забіла ў ДТЗ свайго пасажыра. У Баранавіцкім раёне п’яны кіроўца збіў дваіх пажылых пешаходаў, якія ад удару памерлі на месцы...Страшная навіна прыйшла ўчора: пад Мінскам п’яны кіроўца без правоў насмерць збіў 18-гадовую дзяўчыну.

Што насцярожвае: амаль кожны дзясяты кіроўца пасля прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці садзіцца за руль “падшафэ” паўторна на працягу года.

**Арцём ШАРКОЎ, дырэктар інфармацыйна-асветніцкай установы “За аўто”:**

— На мой погляд, больш жорсткім пакараннем значных, адчувальных вынікаў не дасягнеш. Барацьбу з п’янымі кіроўцамі трэба пачынаць з выхавання культуры кіравання, паводзін на дарозе ўсіх удзельнікаў руху. Праводзіць такую працу трэба са школы.

Прафілактыка і выхаванне — толькі так, на мой погляд, можна дамагчыся парадку на дарогах ...

**Аляксандр ДЗЯДЗЮЛЯ, прафесійны кіроўца:**

— Я катэгарычна супраць канфіскацыі транспартных сродкаў. Сітуацыі могуць быць розныя, тым больш зараз, калі адмянілі язду па даверанасці. Напрыклад, малады чалавек даў машыну сваёй сяброўцы, яна выпіла бакал шампанскага і яе спыніў дэпээснік. Што, адразу канфіскоўваць аўтамабіль? Але ж гэта маёмасць іншага чалавека! Ці, напрыклад, сям’я мае адно аўто, на ім ездзіць і мужык, і жонка. А калі ў яго куля ў галаве, ён сеў п’яны, нягледзячы на тое што жонка забараняла, прасіла гэтага не рабіць. Пакараюць не яго, а ў першую чаргу сям’ю.

Я думаю, што змагацца з п’янымі за рулём трэба інакш — больш вялікімі штрафамі.

**Вольга АНДРЭЕВА, псіхолаг:**

— Рабіць больш жорсткім пакаранне за кіраванне аўтамабілем у п’яным выглядзе неабходна. Я падтрымліваю такое рашэнне.

Цяпер назіраецца такая тэндэнцыя, калі робіцца прадметам асаблівай крутасці парушаць правілы дарожнага руху. Нават па дробязях: не ўключыць сігнал павароту, напрыклад. Але самыя страшныя людзі на дарозе — гэта п’яныя кіроўцы. І калі ў цывілізаваных краінах паважаць законы — гэта стыль жыцця, звычка, то ў нас, на жаль, гэтага няма. А калі народ такой культуры не мае, то праз спалох яго можна нечаму навучыць. Напрыклад, у Сінгапуры не толькі п’янства, але і хамства за рулём вынішчылі звышсуровымі штрафамі. Таму ў адносінах да тых, хто садзіцца за руль п’яным, узмацненне жорсткасці пакарання — мера неабходная. Каб іншыя баяліся. І адной такой адэкватнай мерай можа быць канфіскацыя аўтамабіля. Прымяняцца яна будзе ў асаблівых выпадках, але ведаць пра гэта будуць усе.

АФІЦЫЙНА

### Што кажа закон?

Нецвярозых кіроўцаў у Беларусі караюць штрафам. Калі п’яны за рулём папаўся ўпершыню, гэта адміністрацыйнае правапарушэнне, і такому кіроўцу пагражае штраф у памеры ад 15 да 35 базавых велічынь з пазбаўленнем права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на тры гады (сёння адна базавая велічыня складае 100 тысяч рублёў). А калі кіроўца не мае вадзіцельскага пасведчання, то памер штрафу ўзрастае ад 25 да 45 базавых велічынь.

За паўторнае парушэнне прадугледжана крымінальная адказнасць, і парушальніка нават могуць пазбавіць волі. Але звычайна гэтага не адбываецца. Паводле статыстыкі, за шэсць месяцаў гэтага года з 1403 чалавек, якія другі раз папаліся п’янымі за рулём, 1167 былі аштрафаваны. І толькі аднаго кіроўцу пазбавілі волі. Турмой караюць, як правіла, тых кіроўцаў, якіх злавілі п’янымі трэці раз. Максімум, што ім пагражае, — 2 гады турмы.

**Наталля БАТРАКОВА, пісьменніца:**

— Рабіць больш жорсткімі меры трэба. Асабліва ўлічваючы, што ўзрасла ў разы колькасць аварый, учыненых па віне п’яных кіроўцаў. Але неабходна вельмі дакладна прапрацаваць усе прававыя нормы.

Я за канфіскацыю, калі парушэнне злоснае — кіроўца папаўся п’яным паўторна і аўтамабіль яго ўласнасць. Калі машына яму не належыць, можна караць пазбаўленнем волі на рэальны і канкрэтна пазначаны тэрмін. Калі трапіў першы раз і ўзровень алкаголю ў крыві невысокі, можна абмежавацца пазбаўленнем вадзіцельскага пасведчання і вялікім штрафам. І няхай ён задумаецца, ці садзіцца яшчэ калі-небудзь за руль “падшафэ” або лепш выклікаць таксі, скарыстацца паслугай “п’яны кіроўца”, калі тваю машыну за пэўную плату адгоніць цвярозы чалавек.

У чалавека заўсёды ёсць выбар. Але калі ён выбірае тое, што пагражае жыццю іншых, гэта трэба жорстка спыняць. І такая мера, як канфіскацыя аўтамабіля, кагосьці можа астудзіць і, магчыма, выратаваць чыёсьці жыццё.

**Ігар АЛІСЕВІЧ, менеджар:**

— Канфіскоўваць аўтамабілі ў беларусаў, якія жывуць небагата, не зусім справядліва.

Акрамя таго, гэта дасць падставы нядобрасумленным супрацоўнікам ДАІ браць хабар з тых кіроўцаў, якія будуць затрыманы нападпітку. І памер гэтага хабару будзе вялікі. Багатыя змогуць адкупіцца, і пацерпяць не самыя злосныя парушальнікі.

ЯК У ІХ

### Штрафы, турма, але не канфіскацыя

З п’янымі на дарогах вядуць барацьбу ва ўсіх краінах. І, як правіла, жорсткімі штрафамі. Напрыклад, **у ЗША** штраф складае ад 300 ад 1000 долараў. За паўторнае парушэнне могуць пазбавіць правоў на тэрмін ад 3 месяцаў да пажыццёва і нават пасадзіць у турму.

У **Германіі,** дзе культура кіравання аўто паказальная, штрафы за язду ў нецвярозым стане складаюць 500—3000 еўра, кіроўцу таксама могуць пазбавіць вадзіцельскага пасведчання тэрмінам да 5 год.

У нашых суседзяў **літоўцаў** штраф складае ад 38 да 58 долараў, таксама кіроўцу могуць пазбавіць вадзіцельскага пасведчання на год-паўтара. Ва **Украіне** п’яным кіроўцам даводзіцца плаціць штарф, у некаторых выпадках яго памер можа скласці ад 400 да 600 долараў, таксама іх могуць пазбавіць вадзіцельскага пасведчання тэрмінам да трох год, адправіць на грамадскія работы або арыштаваць на 5 сутак.

У **Расіі** зараз прапаноўваецца ўвесці радыкальныя меры барацьбы з п’янымі кіроўцамі. Напрыклад, калі па іх віне ў аварыі загінулі людзі, то прапаноўваецца караць штрафам, сувымерным кошту аўтамабіля, а таксама пазбаўляць волі на тэрмін да 15 гадоў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Мілінкевічу адмаўляюць у памяшканні

Рух “За Свабоду” рыхтуе на 20 кастрычніка правядзенне справаздачна-выбарчай канферэнцыі. Мяркуецца ўдзел каля 150 дэлегатаў. Аднак знайсці неабходнае памяшканне аказалася не так проста...

Як паведамляе прэс-служба “Руха за Свабоду”, у шэраг установаў (мінскія гатэлі “Crown Plaza” і “Вікторыя”, IBB-цэнтр), якія маюць для правядзення такога мерапрыемства залы неабходных памераў, былі пададзены заяўкі з просьбай аб заключэнні дамовы арэнды. Гатэлі, куды былі пададзены заявы, вытрымалі паўзу ў тыдзень і адказалі адмовай у сувязі з *“занятасцю памяшканняў”.* Адміністрацыя IBB-цэнтра паведаміла, што заснавальнікі, у ліку якіх Мінгарвыканкам, прынялі рашэнне прадастаўляць памяшканні толькі для правядзення профільных мерапрыемстваў.

*“Нават наяўнасць афіцыйнай рэгістрацыі няўрадавай арганізацыі не дае ніякіх пераваг, калі яна не трапляе ў спіс лаяльных. Рэжым робіць усё магчымае, каб актыўнасць беларусаў не выходзіла за межы кухні. Любы збор грамадзян, аб’яднаных пэўнай канкрэтнай мэтай, больш за некалькі дзясяткаў чалавек, успрымаецца як пагроза стабільнасці і патэнцыйная небяспека для ўлады”,* — каментуе адмовы намеснік старшыні руху “За Свабоду” **Юрась Губарэвіч**.

Такім чынам, справаздачна-выбарчая канферэнцыя знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Тым не менш рух “За Свабоду”, які ўзначальвае Аляксандр Мілінкевіч, будзе надалей шукаць магчымасці для яе правядзення ў запланаваны дзень.

СІТУАЦЫЯ

# Усёдаравальнасць па-жлобінску,

*альбо Гісторыя пра тое, як адзін правінцыял дамагаўся праўды і справядлівасці ў «прэзідэнцкай рацы»...*

Васіль Пятровіч Малафееў да нядаўняга часу займаў пасаду намесніка дырэктара Жлобінскай птушкафабрыкі па... ідэалогіі.

37-гадовы, у росквіце сіл, юрыст з вышэйшай адукацыяй не меў ніякіх спагнанняў за час працы. І раптам такое — не працягнулі кантракт, выставілі за вароты... За якія правіннасці, за якія парушэнні?.. Ды не, нічога такога і блізка. Не злоўжываў, не абражаў, ідэалагічную "лінію" вытрымліваў... Звычайна якраз ідэолагі выносяць "прысуд" наёмным работнікам, з іх падачы кіраўнік прадпрыемства прымае рашэнне: працягнуць кантракт з чалавекам, "секвеставаць" яго да "кароткага павадка" ці наогул анулюваць працоўную дамову. Усё залежыць ад таго, наколькі ты лаяльны да начальства, а не эфектыўны ў працы ці там які наватар. Тут важна не высоўвацца, не "вякаць" лішняе — іншадумства і праўдалюбства горш за парушэнне Дырэктывы ПРБ №1!.. Ды што доўга валэндаць: тысячы суайчыннікаў адчулі на ўласнай скуры "кантрактную аброць", якая, па сутнасці, — зашморга-пятля на шыі чалавека. Адметнасць нашай, банальнай, гісторыі хіба ў адным — тую зашморгу-пятлю зацягнулі на шыі не проста шараговага работніка, але "свайго ў дошку" чалавека, ідэолага... Хіба не нонсэнс?!. Канечне, еду ў слаўны горад Жлобін, дзе не толькі вараць сталь і гоняць профіль для металакорда, але і гадуюць бройлераў на мяса... Каб, значыцца, на свае вочы ўсё пабачыць, сустрэцца з нашым героем, пераканацца ў тым, што напісанае ім у розныя інстанцыі — не выдумка, а самая што ні ёсць горкая праўда-матка.

Васіль Пятровіч — чалавек адукаваны і вопытны, таму сваю крыўду на начальства не замкнуў у сховах душы, а вынес на свет Божы. Як турнулі з прадпрыемства (ні за што ні пра што), то і пачаў бамбардзіраваць лістамі-скаргамі ўсе паверхі прэзідэнцкай "вертыкалі". А чаму б і не, калі загналі ў кут, а на руках дзясяткі старонак кампрамату, уключаючы 50-аркушны "талмуд" Камітэта дзяржаўнага кантролю, які стаўся вынікам праверак птушкафабрыкі?.. Лісты-звароты, лісты-скаргі аселі ў высокіх кабінетах, а вынік — нулявы... Ва ўсялякім разе — для самога Васіля Пятровіча. Ён па-ранейшаму персона нон грата ў чыноўным асяродку Жлобіна... На ўсе звароты — да галавы Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Кабякова, да старшыні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь, да Генеральнага пракурора, да старшыні Гомельскага аблвыканкама В.Дворніка — ніякага "рэагажу". У лепшым выпадку — фармальныя адпіскі, у горшым — поўнае ігнараванне.

Але на што скардзіцца Васіль Пятровіч, да чаго зводзіцца ягоны адчайны заклік?

*"З мэтаю ўтойвання масавых злоўжыванняў службовымі паўнамоцтвамі былога дырэктара ПСУП "Жлобінская птушкафабрыка" А.Атрошчанкі, выконваць абавязкі дырэктара птушкафабрыкі 30.07.2012 г. прызначылі былога вартаўніка С.Зубахіна,* — інфармуе інстанцыі Васіль Пятровіч. — *З птушкафабрыкі той ужо быў звольнены двойчы, а да гэтага не працаваў нават на шараговай кіраўнічай пасадзе. Новы кіраўнік прадпрыемства пачаў зводзіць рахункі са спецыялістамі, якія раскрылі факты крадзяжу, злоўжыванняў, здзейсненых на прадпрыемстве за два апошнія гады на суму больш за 100 мільярдаў рублёў. Гэта пацвярджае і акт праведзенай праверкі птушкафабрыкі Камітэтам дзяржкантролю ў красавіку 2012 года.*

*Займаючы пасаду намесніка дырэктара птушкафабрыкі па ідэалагічнай рабоце,* — піша далей цяпер ужо былы ідэолаг, — *я быў адхілены Зубахіным 31.08.2012 г. ад працы, хоць кантракт са мною быў заключаны да 2017 года.*

*У віну мне паставілі фармальны недагляд, дапушчаны самім наймальнікам пры перазаключэнні са мною кантракта. Па дадзеным пытанні я чатыры разы звяртаўся (пасылаючы тэлеграмы) да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, а таксама да старшыні Гомельскага аблвыканкама, Генеральнага пракурора, Генеральнага дырэктара мясакамбіната (заснавальніка нашага прадпрыемства) А.Лагойкі, але ніякіх мер па адмене незаконнага загаду не было прынята".*

Натуральна, пры сустрэчы з Васілём Пятровічам у Жлобіне пытаюся ў яго: у чым той "фармальны недагляд" наймальніка пры перазаключэнні кантракта?

"Справа ў тым, — адказвае ён, — што наймальнік, а гэта быў тагачасны кіраўнік птушкафабрыкі Аляксандр Мікалаевіч Семянцоў, працягнуў са мною працоўны кантракт 20.08.2012 года. І пячатка на месцы, і подпісы адпаведныя маюцца. Але ўсё гэта не было афармлена новым загадам, бо неўзабаве Семянцова памянялі спачатку на Вырвіча, а потым і на Зубахіна. Ну, не паспелі надрукаваць загад: Семянцова літаральна на працягу тыдня памянялі на іншага выконваючага абавязкі дырэктара. Тым і скарыстаўся апошні выконваючы гэтыя абавязкі — Зубахін... Зразумела, перад намі проста зачэпка, каб некаму пасквітацца са мною раз і назаўсёды. Дарэчы, Зубахіна прызначылі на пасаду выконваючага абавязкі дырэктара тэрмінам на... тры гады. Ці не дзіўна?.."

"Ну, добра, — гну сваё далей, — а ці можа пацвердзіць свае дзеянні (па пралангацыі кантракта) сам спадар Семянцоў?"

Але — трэба ж такому здарыцца — якраз на момант нашай сустрэчы Аляксандра Мікалаевіча Семянцова выклікалі... у міліцыю. Па словах Васіля Пятровіча, гэта не першы выклік. "Дамагаюцца, — кажа ён, — не толькі ад мяне, але і ад Семянцова прызнання, што нібыта заключаны са мною кантракт незаконны, што нібыта ёсць нейкія падціркі. Але ўсе юрысты ў горадзе, да якіх мы звярталіся, не бачаць ніякіх процізаконных дзеянняў. Да таго ж Аляксандра Мікалаевіча ведаюць і паважаюць у горадзе як прыстойнейшага чалавека, сапраўднага прафесіянала (за плячыма Інстытут народнай гаспадаркі, фінансавая аспірантура, прамакадэмія). У свой час ён працаваў у Кабякова, калі той узначальваў Камітэт дзяржаўнага кантролю. Але ж прэсінгуюць, ціснуць, хаця ўсе ведаюць і разумеюць: Аляксандр Семянцоў дзейнічае толькі ў рамках заканадаўства..."



Паколькі мы ў Жлобіне і навідавоку ніяк не патушаны канфлікт, то варта пабываць і на самой птушкафабрыцы. Едзем туды, у бок вёскі Саланое — гэта непадалёку ад БМЗ, гмахі якога амаль падпіраюць птушкафабрыку. Па дарозе, канечне, унікаю ў бройлерныя "дзівосы". І яны ўражваюць... Толькі ў мінулым годзе падзеж птушкі на фабрыцы склаў 271 тысячу галоў — на суму 5,3 млрд рублёў. А за першае паўгоддзе 2012 года загублена 250 тыс. галоў — на суму 5 млрд рублёў. Цікава, што дакументы на ўтылізаваную птушку ніхто так і не прадаставіў. Дзіўна і тое, што Дзяржкантроль не пацікавіўся, куды падзелася тая загубленая птушка. Чаму ўрэшце дакументы не былі перададзены для расследавання праваахоўным органам?..

Як дробязнае пытанне ў акце рэвізіі адлюстраваны і факт бязмэтавай закупкі імпартнага абсталявання для цэха забою птушкі. Між іншым, кошт таго абсталявання з улікам крэдытнай стаўкі (26%) склаў 3,2 млн долараў ЗША. І гэта ў той самы час, калі было ўстаноўлена (прадстаўнікамі аблвыканкама, райвыканкама, генпракуцыроўшчыкамі), што будаваць новы цэх ніяк нельга з-за санітарных норм. Аднак нягледзячы ні на што, мясакамбінат купіў-такі нямецкае абсталяванне. На момант здзелкі і афармлення валютнага крэдыту заказчык (Жлобінскі мясакамбінат) накіраваў праектнай арганізацыі пісьмо аб тым, што дамова на праектаванне цэха забою птушкі скасоўваецца. Усе дакументы — крэдытная і валютная дамовы, кантракт на закупку абсталявання і пісьмо аб скасаванні дамовы на распрацоўку праекта цэха забою птушкі падпісаны аднымі і тымі ж асобамі. Дык ці не пахне тут "адкатамі"?.. Але самае ганебнае ў гэтай інвест-гісторыі тое, што закупленае імпартнае абсталяванне кінута на складзе птушкафабрыкі і да цяперашняга часу і нікім не запатрабавана, не прынята ва ўстаноўленым парадку на баланс і не прарэвізавана. Між тым гарантыйныя абавязацельствы нямецкай фірмы заканчваюцца праз два месяцы... Здавалася, факт грубага парушэння закона аб інвестыцыях не выклікае сумнення, аднак і тут матэрыялы праверкі Камітэт дзяржкантролю чамусьці не накіраваў у пракуратуру. Чаму?..

Ці вось яшчэ... У акце праверкі зафіксаваны факты адмывання грашовых сродкаў падчас пастаўкі, мантажу і наладкі дзвюх халадзільных камер фірмай "Аэрабел". Па дамове фабрыка павінна была выплаціць падрадчыку за ўсе работы 86 мільёнаў рублёў. Фактычна ж, і тое выявіла праверка КДК, "Аэрабелу" было выплачана... 276,5 млн рублёў... Прычым на момант праверкі халадзільнікі не працавалі і да цяперашняга часу не прыняты да эксплуатацыі. Для таго каб запусціць іх у работу, птушкафабрыка наняла новага падрадчыка, якому ўжо нанова пералічыла дзясяткі мільёнаў рублёў. Але і ў даным выпадку матэрыялы расследавання не былі перададзены праваахоўным органам. Спадар Атрошчанка (ён падпісваў дамовы) зноўку выйшаў сухім з вады. Ну проста бязмежная ўсёдаравальнасць!..

А вось мы і ля варот самой птушкафабрыкі... Праз іржавыя вароты пранікаем проста на тэрыторыю. Больш жудаснай карціны з серыі "прамысловасць мінулага" бачыць не даводзілася, хіба што закінутыя фермы, пабудаваныя ў сярэдзіне мінулага стагоддзя... Парослы хмызам двор, чатыры карпусы птушнікаў, насцеж расчыненыя і ўсімі забытыя, састарэлыя, пакарабаныя сцэны забойнага цэха... "Нутро" цэха мала чым адрозніваецца ад знешняга выгляду: шэрасць, бруд, цесната, дапатопнае канвеернае абсталяванне... Пытаюся ў работніц, як ім тут працуецца, якія заробкі... "У сярэднім па два мільёны амаль выходзіць, — кажа адна. — Не шмат, але як ёсць..."

Хацеў было сфатаграфаваць тых маладзіц, канвеер, гатовую прадукцыю, але дзе там... Начальніца цэха, убачыўшы фотакамеру, рэзка запярэчыла: ды хто вы такі, хто дазволіў, як увогуле сюды праніклі?! Карацей, прыйшлося рэціравацца, толькі знадворку і ўдалося тое-сёе "зафотаць".

Страціўшы працу, Васіль Пятровіч Малафееў не страціў жадання змагацца — за праўду, законнасць і справядлівасць. "Губляць ужо няма чаго, — кажа, — таму буду біцца да апошняга".

Але дзе тая "апошняя" інстанцыя, якая можа даць рады, неяк разруліць канфлікт? Здаецца ж, і апошнюю прайшоў — Адміністрацыю самога прэзідэнта. Толькі і там ніякай рады яму не далі, нават надзеі. Праўда, запэўнілі, што з птушкафабрыкай яшчэ будуць разбірацца. А як жа быць з самім Васілём Пятровічам, з ягоным працаўладкаваннем на ранейшую пасаду?..

"Звярніцеся на біржу працы, — параілі былому намесніку дырэктара па ідэалогіі. — Хоць якая грашовая дапамога будзе..."

...Па шчырасці, ніколі не давяраў розным штатным ідэолагам, "легіён" якіх — ні то пятае кола ў драбінах, не то струхлелая падпорка ўладнай "вертыкалі". Карысці людзям ад "камісараў" аніякай, затое ўсе пад абцасам: з іх жа падачы "сякуцца галовы" многім кантрактнікам. "Шэрыя кардыналы" трымаюць нос па ветру, а вецер у краіне дзьме строга ў адным напрамку. Тут і флюгер не патрэбны — яны самі замест яго. Але во дзіва! З усёй гэтай шэрасці раптам "вылупіўся" адзін "легіянер", які ўсумніўся ў напрамку ветрадуя. І, болей за тое, пачаў было круціць носам: маўляў, не ўсё тое пасат, што дзьме ў адным напрамку, маўляў, трэба разабрацца з халоднымі "завіхрэннямі" на мясцовым узроўні, і ўсё такое... Ну проста не шараговы ідэолаг, а капітан Тушын — адзін супраць усяе зграі... Але каму па нораве такое, каму з правінцыйнай чэлядзі ахвота выносіць смецце са сваёй — якойніякой — хаты?! І, нашаму герою, як бачыце, тут жа далі па руках. Узялі ды вытурылі з працы — каб не квакаў на ўсё балота, каб не выдаваў сваіх...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



ЧУЛІ?



## Міліцыя паставіла Сяргея Каваленку на ўлік

*Як паведамляе БелаПАН, былы палітвязень Сяргей Каваленка, актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ з Віцебска, пастаўлены на прафілактычны ўлік.*

На працягу бліжэйшых двух гадоў Каваленка павінен адзначацца ў той самай інспекцыі, супрацоўнікі якой ініцыявалі супраць яго крымінальную справу за парушэнне рэжыму так званай хатняй хіміі, адзначае праваабарончы сайт www.spring96.org.

"Хатнюю хімію" апазіцыянер атрымаў за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы ў Віцебску 7 студзеня 2010 года.

У лютым 2012 года Каваленку асудзілі на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Адразу пасля затрымання ён абвясціў галадоўку пратэсту, якая доўжылася каля двух месяцаў з невялікімі перапынкамі.

26 верасня Каваленка датэрмінова вызвалілі з магілёўскай турмы на падставе прашэння аб памілаванні на імя А.Лукашэнкі.

АФІЦЫЙНА

## Міхаіл МІХАДЗЮК: «Мы гатовы адказаць Літве на ўсе пытанні»

*Намеснік міністра энергетыкі Беларусі **Міхаіл Міхадзюк** лічыць, што прэтэнзіі Літвы наконт будаўніцтва беларускай АЭС носяць камерцыйны характар.*

*"У рамках канвенцыі мы правялі ўсе мерапрыемствы, якія былі патрэбныя. Нават з Літвой двойчы. Мы адказалі на ўсе пытанні*, — прыводзіць словы намесніка міністра БелаПАН. — *Тут пытанні камерцыйнага характару, камерцыйнага поспеху рэалізацыі праекта па будаўніцтве Вісагінскай АЭС".*

Пры гэтым Міхадзюк заявіў: *"Мы гатовы адказаць Літве на ўсе пытанні, якія ў іх сёння ёсць, на якія, яны лічаць, пакуль не дадзены адказы. Але пакуль яны не ідуць на двухбаковыя кансультацыі".*

Як адзначыў першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Віталь Кулік**, прэтэнзіі Літвы звязаны з размяшчэннем беларускай АЭС у пэўнай аддаленасці ад сталіцы Літвы Вільнюса, хоць Вісагінскую АЭС плануецца пабудаваць у 2300 м ад беларускай мяжы. "*Гэта значыць зона санітарнай абароны элементарна трапляе на тэрыторыю нашай краіны. Што тычыцца размяшчэння нашай АЭС у блізкасці да Вільнюса, дык такіх абмежаванняў у міжнародных дакументах не існуе*", — сказаў Кулік.

ПРОДОЛЖЕНИЕ РАЗГОВОРА

## Начинать надо с объединения



В "Народной Воле" за 2 октября этого года была опубликована статья кандидата исторических наук Евгения Константиновича Анищенко *"З чаго пачаць?"*. В ней автор дал критическую оценку нынешней политической ситуации и предложил провести интернет-референдум относительно вариантов будущего устройства Беларуси — с должностью президента или без этой должности. Он также указывает меры, которые следует предпринять для организации такого референдума.

***

Сама по себе идея о проведении референдума (плебисцита) в сети интернет заслуживает внимания. Опрос общественного мнения по конкретным вопросам может быть учтен при проведении конституционных преобразований. Но нельзя не видеть "слабых сторон" этой инициативы.

Во-первых, в виртуальном референдуме могут принять участие только пользователи сети интернет. Это в основном молодежь и представители интеллигенции. И то не все, а лишь те, которые интересуются вопросами политики. Сколько их наберется? Можно предположить, что несколько тысяч, в лучшем случае несколько десятков тысяч. Так сказать, репрезентативная выборка, позволяющая судить об умонастроениях продвинутой части белорусского общества.

Во-вторых, результаты опроса интернет-пользователей не могут иметь юридического значения, поскольку не будет соблюдена процедура проведения референдума. В соответствии с нормами Избирательного кодекса надо выполнять ряд требований, чтобы инициировать и назначить референдум (стст.113—118), а потом — его провести и подвести итоги (стст.119—124).

В-третьих, интернет-референдум вызовет противодействие со стороны представителей власти, прежде всего спецслужб. Скорее всего его постараются пресечь на корню, для чего возьмут "в оборот" его организаторов и активных участников.

Поэтому рассчитывать на успех такой инициативы едва ли приходится. Ей просто не дадут развиться и получить широкий размах.

В то же время следует прислушаться к призыву автора в заключительной части его статьи: *"Патрэбны рух, які ставіць сваёй мэтай не ўдзел у выбарах дзеля прапаганды партыйных лозунгаў, а карэннае пераўтварэнне краіны. Гэта магчыма зрабіць у рамках працы над праектам канстытуцыйнай рэформы. Вакол ідэй новай Канстытуцыі абавязкова сфарміруецца канцэпцыя палітычнай рэформы і механізмаў яе рэалізацыі".*

На мой взгляд, эта идея заслуживает поддержки. Начинать надо с объединения демократических сил на основе стратегических целей — восстановления конституционной законности, демократии, справедливости. Хорошей формой для нахождения взаимопонимания и выработки единой платформы могли бы стать постоянно действующие "круглые столы" с участием представителей политических партий и других структур гражданского общества. В ходе обсуждений, опираясь на помощь экспертов, можно подготовить общую программу преобразований в политической, экономической, социальной и культурной сферах. Эту программу можно обсуждать на различных форумах и уровнях. Она может стать знаменем реформ и основой возрождения Беларуси.

Главное — преодолеть имеющиеся разногласия между субъектами политической деятельности и сделать первые шаги в правильном направлении...

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук, профессор,**
**заслуженный юрист Республики Беларусь.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫЯ!

## Эпідэмія грыпу прыйдзе на Новы год

*А вакцынацыю лепш рабіць у кастрычніку—лістападзе.*



Паводле слоў намесніка начальніка аддзела гігіены, эпідэміялогіі і прафілактыкі Міністэрства аховы здароўя Беларусі **Іны Карабан,** павелічэнне захворвання на грып чакаецца ў канцы снежня — пачатку студзеня. Уздым захворвання будзе доўжыцца чатыры-пяць тыдняў.

Кіраўнік Нацыянальнага цэнтра па грыпе **Наталля Грыбкова** адзначае, што аналіз захворвання на грып у Паўднёвым паўшар'і дазваляе зрабіць прагноз аб тым, што "*эпідэмічная сітуацыя будзе сярэдняй інтэнсіўнасці". "Надзвычайных сітуацый па грыпе мы не чакаем, але да сюрпрызаў гатовыя",* — прыводзіць словы Грыбковай БелаПАН. Паводле прагнозу Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на тэрыторыі Беларусі будуць цыркуляваць ужо вядомыя па папярэдніх гадах вірусы грыпу, у тым ліку А (H1N1), А (H5N1), штамы вірусаў В і іншыя.

Медыкі рэкамендуюць прышчапіцца ад грыпу, асабліва людзям з аслабленым здароўем, хранічнымі захворваннямі. Вакцынацыю лепш рабіць у кастрычніку-лістападзе.

СМАЧНА ЕСЦІ!

## У Мінску пройдзе першы чэмпіянат па хуткасным паяданні піцы

Падчас мерапрыемства беларусы паспрабуюць пабіць сусветны рэкорд. Яго ўстанавіў амерыканец Джой Чэстнут у 2008 годзе. Ён за 10 хвілін з'еў 45 кавалачкаў піцы (дыяметр 27 см).

Першы чэмпіянат па хуткасным паяданні піцы на кубак "Піца Тэмпа" адбудзецца 14 кастрычніка і будзе праходзіць у тры этапы. Спачатку ўдзельнікі павінны будуць пакаштаваць піцу і вызначыць яе склад на смак, падчас другога этапа ім давядзецца адказаць на пытанні пра гісторыю піцы, а напрыканцы з'есці як мага больш кавалачкаў піцы за 10 хвілін.

Чэмпіянат будзе судзіць спецыяльная камісія. Удзельнічаць у чэмпіянаце можа кожны жадаючы. Пераможцаў чакаюць прызы.

**Вера ВІР.**

ПОЛИТКУХНЯ

# Саморазоблачение Гайдукевича

*Поведение Либерально-демократической партии и ее лидера Сергея Гайдукевича внесло некую смуту в политизированные умы. Гайдукевич раздает резкие комментарии с критикой власти, партия провела предвыборную кампанию, но самим выборам объявила бойкот, под крыло Гайдукевича стягиваются бывшие силовики и чиновники, восстановлены связи с Россией... Что все это значит?*

Никакой интриги нет. Сергей Гайдукевич хочет стать легальной, разрешенной, дозволенной оппозицией, которая не преследует цель смены власти и, наоборот, готова играть роль имитатора демократии и плюрализма мнений. Вероятно, Гайдукевич надеялся, что уже эти выборы в Палату представителей пройдут по партийным спискам. Готовился. Но этого не случилось. Более того, ему никто ничего не предложил. Он разозлен и обижен. Откровенные высказывания прозвучали на "круглом столе", посвященном выборам, в журнале Администрации президента "Беларуская думка". Цитаты говорят сами за себя.

"Либерально-демократическая партия Беларуси хоть и находится в оппозиции к действующей власти, всегда придерживалась и придерживается конструктивизма. Мы стараемся быть услышанными властью и хотим, чтобы власть нас понимала. Мы ищем компромиссы и не хотим, чтобы власть рухнула".

"Считаю, что у наших властных структур — слабые аналитики. Ведь хотели же, по крайней мере были определенные заявления на этот счет, на базе общественного объединения "Белая Русь" создать партию, но почему-то не сделали этого. А именно провластная партия могла бы внести значительное оживление в политическую жизнь страны".

"Я считаю, власть сделала огромную ошибку, что не пошла на пропорциональную или хотя бы смешанную систему выборов. Это был бы огромный шаг вперед, и выборы были бы признаны на международном уровне. Поверьте мне, в таком случае ЛДПБ отстояла бы свою легитимность перед любыми структурами. Глубоко убежден, что партии, которые позиционируют себя как непримиримые к нынешней власти, не попали бы в парламент".

"Да, это был бы шаг вперед. Было бы 50 одномандатных округов — власть могла бы выставлять там своих депутатов. А так сегодня нельзя сказать, что у нас были выборы. Я ведь мог заранее назвать всех кандидатов во всех 20 округах города Минска, которые в итоге станут депутатами. И это знали многие. Но мы не бойкотировали выборы. Наши кандидаты шли в народ и добросовестно проводили работу, заранее зная, что в парламент они не пройдут. Вот вы задайте вопрос: почему не баллотировался Гайдукевич? А зачем? Чтобы мне после выборов сказали, что за себя проголосовал я сам, моя жена и дети? Неужели вы действительно думаете, что я проиграю заместителю директора завода или председателю райисполкома, которого люди "любят" за множество не решенных в районе проблем? А ведь это предопределено заранее. Или вот известный человек Евгений Крыжановский, не первый раз баллотируется. К нему люди подходят после выборов и говорят, что он выиграл. Но факт остается фактом..."

"Считаю, что белорусское общество уже созрело для введения если не пропорциональной, то хотя бы смешанной системы выборов. И если этого не сделать, то в будущем вполне возможны потрясения в обществе. А наша партия настроена обойтись без "оранжевых революций" и хочет, чтобы власть поняла — надо делать какие-то изменения для своего же блага".

"Мы предлагаем смешанную систему, где 50% мест в парламенте могут занять провластные депутаты. Да, я понимаю, когда власть не желает видеть среди депутатов парламента представителей тех партий, которые будут обливать страну грязью. Это понятно. Но депутаты от ЛДПБ с парламентской трибуны скажут напрямую то, о чем провластный депутат будет молчать".

Как говорится, без комментариев.

**Игорь МОРОЗОВ.**

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*“Народная Воля” працягвае друкаваць часткі з кнігі пра вядомага праваабаронцу, якую напісаў журналіст Радыё Свабода Валер Каліноўскі.*

*(Пачатак у №№145—146, 149—158.)*

# Віза ў суд



На працэс Алеся Бяляцкага не змаглі трапіць прадстаўнікі міжнародных арганізацый, у тым ліку і тых, якія пералічвалі гранты на дзейнасць “Вясны”, а таксама кіраўніцтва Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (МФПЧ), віцэ-прэзідэнтам якой з’яўляецца Алесь.

Афіцыйны Мінск адмовіўся даць візы прэзідэнту МФПЧ Суэр Белхасэн і ганароваму прэзідэнту гэтай арганізацыі Патрыку Бадуэну. Апрача іх, у склад дэлегацыі салідарнасці з Алесем першапачаткова была ўключана і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 2003 года Шырын Эбадзі, іранскі юрыст і праваабаронца.

“Мы накіравалі ліст у беларускую амбасаду ад нашай федэрацыі як міжнароднай арганізацыі з просьбай аб візах для назірання за судом. У іншых амбасадах нам заўсёды даюць візы на падставе такога ліста, але з беларускай гэта не спрацавала. Нам сказалі падаваць дакументы на агульных падставах і запатрабавалі прадставіць шмат дакументаў”, — сведчыць супрацоўніца МФПЧ Саша Кулаева.

Сярод іншага консульства РБ у Парыжы запатрабавала афіцыйнае запрашэнне ад зарэгістраванай у Беларусі арганізацыі, ліст з французскага Міністэрства замежных спраў у падтрымку візавых заявак, а таксама рэкамендацыйны ліст непасрэдна ад суддзі Бандарэнкі. Такім чынам выходзіла, што сам суддзя мусіў бы выдаць ім візу на працэс, хоць такія лісты зусім не ўваходзяць у афіцыйны пералік дакументаў для атрымання візы, і гэта можна спраўдзіць на сайце амбасады Беларусі ў Францыі.

Праваабаронцы не пагадзіліся на патрабаванні наконт рэкамендацыйных лістоў ад МЗС ды суддзі і падалі толькі тыя дакументы, якія вызначаны афіцыйным пералікам.

31 кастрычніка 2011 года яны даслалі дзве тэрміновыя заяўкі на атрыманне віз для прэзідэнта і ганаровага прэзідэнта МФПЧ. Сабраць усе запатрабаваныя дакументы для Шырын Эбадзі не ўдалося. У адказ консульства РБ паведаміла пра чарговыя складанасці: да 1 лістапада яно нібыта мусіць апрацаваць больш за 200 заявак — ад дзвюх каманд французскіх спартсменаў і ад групы журналістаў.

“Прыярытэтам для нас з’яўляюцца спартыўныя сувязі”, — цытуе заяву прадстаўніка беларускага консульства Саша Кулаева. Але заяўкі прынялі.

1 лістапада ў федэрацыю патэлефанавалі з амбасады: “Прыязджайце, дакументы гатовы”. Аднак на рукі Суэр Белхасэн і Патрыку Бадуэну выдалі не візы, а адмовы, якія былі праштампаваныя 31 кастрычніка.

Прэзідэнту МФПЧ Суэр Белхасэн у беларускай візе адмовілі другі раз. Першы раз ёй не далі візу ў 2009 годзе, калі яна хацела трапіць на суд у сувязі з нерэгістрацыяй цэнтра “Вясна”. У пасольстве тады ёй патлумачылі, што яна кантактуе з людзьмі ў Мінску, якія “даюць ёй неаб’ектыўныя ацэнкі сітуацыі ў краіне”. Гэтым разам ніякіх тлумачэнняў не было.

Імкнуліся, але не трапілі ў Мінск на працэс Бяляцкага віцэ-старшыня ірландскай арганізацыі Front Line Эндру Андэрсан, кіраўнік праграм праваабарончай арганізацыі Civil Right Defenders са Швецыі Мары Мэнсан, праваабаронцы з Нарвегіі Ане Бондэ і Дайвэ Петкевічуце, якія прадстаўляюць Фонд дамоў правоў чалавека, прадстаўнік Нарвежскага Хельсінкскага камітэта Бэрыт Ліндэман, Марыяне Роча з арганізацыі Partnership for Human Rights (Бельгія) і Рэйчэл Дэнбэр з арганізацыі Human Rights Watch...

Усяго не атрымалі беларускіх віз на працэс Бяляцкага 15 прадстаўнікоў міжнародных праваабарончых арганізацый, падлічыў юрыст “Вясны” Уладзімір Лабковіч. Змаглі прыехаць толькі тыя з іх, хто меў пашпарт Расіі, Украіны ці іншых краін, з якімі ў Беларусі бязвізавы рэжым. І то не ўсе, а толькі тыя, хто не быў раней дэпартаваны з РБ за праваабарончую дзейнасць.

Замежныя праваабаронцы вымушаны былі канстатаваць, што “недапушчэнне на суд міжнародных назіральнікаў з Еўропы шляхам нявыдачы ім віз з надуманых прычын супярэчыць міжнародным абавязацельствам, якія ўзяла на сябе Беларусь”. З такой заявай выступіла Міжнародная назіральная місія за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. А Абсерваторыя абароны праваабаронцаў (сумесная праграма МФПЧ і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў) назвала візавыя бар’еры для міжнародных назіральнікаў на суд Бяляцкага “абуральнай дэманстрацыяй страху, што незалежнае назіранне за судом будзе мець сваім вынікам паведамленні аб парушэннях належнага выканання правасуддзя”.

Віцэ-старшыня арганізацыі Front Line Defenders Эндру Андэрсан, даведаўшыся пра адмову ў беларускай візе, выступіў з відэазваротам на сайце Youtube, у якім шкадаваў, што не зможа асабіста падтрымаць Алеся, ягоную сям’ю і беларускіх праваабаронцаў. “Няспынныя спробы пераследу любога, хто выступае ў абарону правоў чалавека ў Беларусі, — знак адчаю з боку беларускіх улад”, — заявіў Андэрсан.

Імкнуўся на суд у Мінск і кіраўнік Міжнароднай назіральнай місіі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі Андрэй Юраў, даўні знаёмец Бяляцкага. Яго, расійскага праваабаронцу, дэпартавалі з Беларусі 16 сакавіка 2011 года і забаранілі ўезд у краіну на 5 гадоў.

“Я быў бы абавязкова на гэтым працэсе, калі б гэта было мэтазгодна. Мы абмяркоўвалі з калегамі, ці трэба гэта рабіць, бо зразумела, што гэта завершыцца маім арыштам. Гэта магло б быць у добрым сэнсе правакацыяй перад пачаткам працэсу, але гэта дадало б працы мясцовым праваабаронцам. І яны мяне папрасілі гэтага не рабіць, бо ў іх і так шмат працы было, а тут яшчэ са мной прыйдзецца важдацца. Я ж проста не знаходзіў сабе месца ад думкі, што я не магу там быць”, — згадвае Андрэй Юраў.

На момант суда над Бяляцкім больш за дзесяць прадстаўнікоў місіі, якую ўзначальвае спадар Юраў, былі ў статусе неўязных у Беларусь. Многіх яе актывістаў цягам 2010—2011 гадоў беларускія памежнікі і міліцыя здымалі з цягнікоў або дэпартавалі з Беларусі, забараняючы ўезд у краіну на 5 гадоў.

У місію ўваходзяць пераважна праваабаронцы з краін СНД, яна была заснаваная адразу пасля разгону Плошчы 19 снежня 2011 года. Місія паведамляла пра суды і рэпрэсіі, якія масава адбываліся ў Беларусі, уздымала голас пратэсту, працуючы ў экстрэмальных умовах, пад пільным назіраннем КДБ, яе пераследавалі і перашкаджалі ёй распаўсюджваць інфармацыю.

Не заўсёды маючы магчымасць накіраваць сваіх прадстаўнікоў у суд, місія “акрэдытавала” на працэсе Бяляцкага свае дыктафоны, карыстаючыся дапамогай мясцовых назіральнікаў. Яе прадстаўнікі не афішавалі сябе, каб пазбегнуць дэпартацыі і дабыць у Беларусі да канца працэсу. З кожнага судовага дня яны рыхтавалі справаздачы, якімі карысталіся і тыя праваабаронцы, якія не змаглі трапіць у Мінск на працэс.

“Віза ў суд” не спрацавала, інфармацыя пра парушэнні ў працэсе разышлася далёка за межы залы пасяджэнняў, пераканаsuccessfully Андрэй Юраў: “Гэты працэс не адпавядаў стандартам справядлівага правасуддзя ў адпаведнасці з Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Ні паводле зместу, ні паводле працэдуры”.

ЗЛОЕ ПИСЬМО

## *Не обдирайте ободранных!*

В газете “Народная Воля” (№№149—150) была напечатана заметка, в которой приводились слова депутата Г.Полянской о необходимости перехода на 100%-ную оплату расходов ЖКХ. Вы бы еще подхватили идею “пенсионеров — в концлагеря и в крематории”, госпожа Полянская! То-то была бы экономия!

К тому же вопрос коммунального хозяйства, как понимается простому обывателю, — прерогатива правительства, а вы — с ходу не в свои сани. Лучше бы предложили пересмотреть позорящий страну закон о милиции.

Кстати, о повышении разных плат. Только что президент ругал резко повысивших оплату — “обухом по голове” — хозяйственников. Мол, нужно повышать дифференцированно. И вот опять: говорим одно — делаем другое. Мой вам совет: сделайте, например, как в Литве. Даля Грибаускайте урезала свою зарплату на 50 процентов, а всем остальным представителям власти — на 30 процентов.

Разделите стоимость ЖКХ дифференцированно на структуры, которые живут на бюджетные деньги, но имеют высокие оклады. Отмените незаслуженные квартальные премии. И не душите вы народ нищетой и вымиранием, не обдирайте ободранных!

Начните с себя, с парламента, с президентских структур, со всех высокооплачиваемых чиновников и “геройских” генералов.

**З.Р.СЕНЬКО.**

*г.Мозырь.*

КРОПКІ НАД «І»

## *Прабачце, шаноўны Аляксей Сідаравіч!*

У матэрыяле “Жыў, каб жыла Айчына” (“Народная Воля” №№151—152), прысвечаным светлай памяці ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, старшыні Гродзенскага гарадскога грамадскага аб’яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных сіл Мікалая Аляксандравіча Мельнікава, ягоны сябра Аляксей Сідаравіч Дземідовіч прадстаўлены як *былы франтавік*. А трэба было — *ветэран працы.*

Паверце, паважаны Аляксей Сідаравіч, мы не хацелі Вас пакрыўдзіць. Прыкрую памылку выпраўляем. Прыміце нашы шчырыя прабачэнні за недакладнасць, дапушчаную аўтарам публікацыі С.Кліменценка пры расшыфроўцы тэлефоннай размовы з Вамі.

Зычым Вам і ўсім гераічным ветэранам вайны і працы самага найлепшага — добрага здароўя, душэўнай моцы і доўгай памяці аб такім выдатным сыне Беларусі, якім быў Мікалай Мельнікаў.

**З павагай —**

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

НАУКА ЖИЗНИ

# Регулярно занимайтесь любовью — будете жить долго и счастливо!



Вот и лето прошло. И за окном то туман, то дождь, то листья желтые над городом кружатся. Короче стали дни, часто портится погода, а вследствие всего этого и наше настроение.

Осень — определенный стресс для человеческого организма. А ведь в современной жизни нам и так часто приходится с этим сталкиваться. То цены растут как грибы после дождя, то наше правительство никак не может разобраться с непотопляемым ЖКХ, которое в первую очередь должно улучшать качество услуг, а потом уже собирать квартплату, то квартирки уплывают не тому, кто нуждается в первую очередь, и таких “то”, к сожалению, как-то многовато.

Безусловно, все это вместе с нервными взрывами отражается на нас, и уж какое там настроение!..

Как, хотя бы частично, избежать последствий всех этих стрессов?

Поэтому я предлагаю вам, уважаемые читатели, совсем другую игру, которая в определенной степени поможет снять напряжение, вызванное этими стрессовыми ситуациями, найти гармонию и с природой, и с окружающими, и с руководителями разного ранга, и с самим собой.

Главное, не надо вновь и вновь прокручивать в голове все волнующие вас проблемы. Даже если проблем накопилось слишком много, все равно никогда не расставайтесь с мыслью, что все они решатся — не сегодня, так завтра! Важно, чтобы голова была светлая, а мысли — добрыми!..

Ни в коем случае не погружайтесь в хаос невеселых мыслей. Лучше включите веселую музыку и, пожалуйста, представьте себе, что танцуете вдвоем с прекрасной блондинкой (или красавцем)...

Старайтесь во время танца, пусть даже только в воображении, прижаться к любимому человеку — и, поверьте, в вашем организме будут вырабатываться гормоны, которые помогут вам побороть тоску.

Или еще лучше — постарайтесь вспомнить любимые кадры из кинофильмов, в том числе и эротические... По себе знаю, что ничто так не помогает снять стресс и вернуть душевное равновесие, как регулярные занятия физкультурой или спортом, каждому возрасту — свое.

Находите возможность хотя бы часок погулять на воздухе. Ведь, как глаголет наука, в нашем головном мозге под действием ультрафиолета вырабатываются эндорфины — “гормоны счастья”, которые заставляют нас чаще улыбаться и радоваться. Старайтесь делиться своей радостью с близкими друзьями, подругами, ведь разделенная радость — радость вдвойне. И, конечно, регулярно занимайтесь любовью, если позволяет здоровье. Не зря говорят китайцы: любите, пока любится, и будете жить долго и счастливо!

И в заключение советую вам регулярно, хотя бы два-три раза в день, делать самое простое упражнение для восстановления душевного равновесия: переплетите пальцы рук и трите с напряжением ладони друг о друга до тех пор, пока они хорошо не разогреются.

Уверяю вас, уважаемые читатели, если ко всему этому вы научитесь еще и впускать солнце в свою душу, то тогда хорошее настроение не покинет вас в любом возрасте и при любых невзгодах. Помните об этом.

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран труда и спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

*Минск.*



## *Грибное чудо*

**На выгоревшей поляне в лесу под Раковом член садоводческого товарищества “Мостовик” пенсионер Владимир Яковлевич Игнатюк нашел семью аристократов — девять боровиков. Они так и росли — все вместе. На фото видны семь представителей славной семьи, а два малыша застенчиво спрятались за ними.**



# Дзякуй за запрашэнне!

Вялікі дзякуй “Народная Волі” за запрашэнне ў Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета на оперу “Іаланта”, што было надрукавана 28 верасня. Дзякуючы вам я патрапіла ў тэатр. Паўнюткі партэр (менавіта туды быў набыты квіток). Сярод гледачоў было многа людзей старэйшага ўзросту, а таксама дзяцей. Я слухала “Іаланту” не адзін раз, але тое, што адчула, перажыла на гэтым выступленні, было зусім новым успрыманнем таго, што адбывалася на сцэне.

Здаецца, проста казка — “Дачка караля Рэнэ” Генрыха Герца. Але ўслухайцеся, удумайцеся ў сюжэт! Дзяўчына пазбаўлена зроку. Яна не ведае, што ёсць святло! Ці ж мы (асабліва ў былым СССР) ведалі, што ёсць Боскае Святло і Любоў? Іаланта — вобраз усяго чалавецтва, ад якога хавалі праўду. Хавалі, што кожны чалавек мае ў сабе Божую іскрынку.

Выдатны вобраз доктара, які паставіў перадумову лячэння: Іаланта павінна ведаць, што яна не бачыць, і захацець гэта змяніць. Веданне сітуацыі дае магчымасці выбару. І сэрца дачкі караля зрабіла выбар — любоў!

Вельмі здзіўляюся: як я раней магла не чуць гэтага! А мо дагэтуль многія яшчэ не ведаюць, якая магутная хвала Богу гучыць напрыканцы. І ты як бы ў храме... Вось яно, сапраўднае мастацтва.

Гледачы доўга не адпускалі артыстаў. Спевакі некалькі разоў выходзілі на паклон. З аркестравай ямы падняўся дырыжор. Шквал апладысментаў. І толькі тады, калі закрылася заслона, людзі пачалі разыходзіцца...

Вялікі дзякуй усяму калектыву Вялікага тэатра оперы і балета за такую пастаноўку! Зразумець сваю недасканаласць не так проста. А тут такі просты , лагічны досвед: зразумей, што ёсць Божае Святло.

Сапраўдныя творы не старэюць і праз стагоддзі.

**Ядвіга РАЙ.**

САКРЭТЫ ПРЫГАЖОСЦІ

# Што такое фітабочка?

***У адным з жаночых часопісаў заўважыла матэрыял пра фітабочкі, якія нібыта спрыяюць умацаванню імунітэту і пазбаўленню ад лішніх кілаграмаў. Хацелася б даведацца, дзе можна знайсці гэтую працэдуру ў Мінску і колькі яна хоць прыкладна каштуе.***

**Аксана КОРЖ, хатняя гаспадыня.**

## Што такое фітабочка?

Гэта невялікая, амаль індывідуальная саўна, зробленая з кедра, які вядомы ў народнай медыцыне вялікай колькасцю карысных рэчываў. У спалучэнні з адварам гаючых траў эфект бочкі ўзмацняецца: актывізуецца абмен рэчываў — без шкоды для сасудаў галавы, чаго нельга дасягнуць у звычайнай саўне.

У сярэдзіне бочкі праведзены тэрмакабель, які падаграе ваду і дае пару, яе тэмпература рэгулюецца адмысловым датчыкам і тэрмастатам.

Звычайна тэмпература ў бочцы — ад 37 да 40 градусаў.

## Як праходзіць працэдура

Распранаешся і залазіш у бочку. Звонку застаецца толькі галава — ад пары яе аддзяляюць прасціны ці ручнікі, размешчаныя вакол шыі. Падчас працэдуры сядзіш на спецыяльнай лаве ўнутры бочкі.

Спецыялісты кажуць, што бочка падыходзіць тым, хто дрэнна пераносіць парылку. Сеанс доўжыцца каля 15—20 хвілін, за гэты час выводзіцца каля паўлітра вадкасці і губляецца да 600 грамаў вагі. Пот літаральна ліецца ручаём!

Пасля бочкі ў пакоі адпачынку для папаўнення воднага балансу вам абавязкова прапануюць травяны чай — супрацьзапаленчы, вітамінны або для пахудзення. Прымаць душ пасля фітабочкі не рэкамендуецца — актыўныя рэчывы травы, якія аселі на скуры, будуць дзейнічаць яшчэ некалькі гадзін.



## Плюсы і мінусы

Пры рэгулярным наведванні бочкі пазбаўляюцца ад лішняй вагі — спачатку за кошт выхаду вадкасці, а потым адбываецца актывізацыя метабалізму і спальванне лішкаў тлушчу.

Акрамя таго, кедравая фітабочка дапамагае палепшыць стан і колер скуры, робіць яе гладкай і далікатнай, выдаляе цэлюлітныя адклады. Грунтуючыся на натуральных механізмах пахудзення і паляпшэння кровазвароту, эфект дасягаецца мякка і далікатна. А значыць, рызыка вяртання страчаных кілаграмаў мінімальная.

Бочка расслабляе, умацоўвае не толькі імунітэт, але і нервовую сістэму.

Акрамя таго, адбываецца пазітыўны ўплыў на стан пазваночніка, а пры першых сімптомах прастуды бочка дапаможа не захварэць канчаткова.



***Супрацьпаказанні:*** яны ёсць. У фітабочку не рэкамендуецца залазіць людзям з арытміяй, пры высокім ціску, схільнасці да крывацёкаў і актыўных запаленчых працэсах.

## Колькі каштуе

У Мінску цана на гэтую працэдуру — ад 29 да 90 тысяч у залежнасці ад прэстыжнасці і дарагавізны СПА-цэнтра.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

НА ЭКРАНЕ

## *Испанская коррида «против» Кашпировского*

В последнее время по телевизору часто идет реклама испанской корриды, которую демонстрирует Московский цирк в Гомеле. Известно, что еще совсем недавно Гомель был определен как “культурная столица” Беларуси и даже СНГ. Но как соотносится это звание с демонстрацией такого жестокого зрелища, как коррида?

По-моему, бой быков — это дикость! Известно, что некоторые любители острых ощущений за неимением быков проводили собачьи бои, в основе которых тоже лежит жестокость. Теперь получается, быки приехали к нам?..

Но кому нужны эти зрелища — пусть даже на арене цирка, и что они несут для неокрепшей детской души? А детей в цирке — большинство!

В то же время в Минске вроде бы отменили (или перенесли?) выступления Анатолия Кашпировского.

Хотелось бы знать, из каких соображений разрешена коррида и запрещен Кашпировский. И разве это не “двойная мораль”?

**Розалия РУБИНЧИК.**

*Минск.*

***P.S.*** *Выступления Кашпировского в Беларуси пока не отменили, а просто перенесли на более поздний срок. Об этом “Народной Воле” сообщили организаторы мероприятий с участием известного психотерапевта.*

